Дайджест

## В Каннах большинство бутиков обзавелись русскими вывесками

Несмотря на экономический кризис, туризм во Франции процветает, пишет "Крисчиан Сайенс Монитор". Страна вновь вышла на первое место среди самых посещаемых туристами стран мира. По мнению газеты, основными причинами привлекательности для туристов Франции стали рост курса доллара относительно местного франка, чистота гостиничных номеров, а также то, что все больше французов, несмотря на усилия Французской Академии, начинают говорить по-английски. Однако французское Средиземноморье теряет привлекательность для туристов, приезжающих из Великобритании и Соединенных Штатов, которые предпочитают Бретань с ее еще нетронутыми цивилизацией пейзажами, отмечает газета. Ривьера же с ее высокими ценами, толпами отдыхающих, плохой едой и ультраправыми мэрами привлекает в основном российских туристов. Нувориши из России стали настолько многочисленными в Каннах, Ницце и Монако, что большинство местных бутиков обзавелось русскими вывесками. А в вагонах первого класса поездов Париж-Канны красивая девушка комментирует достопримечательности для пассажиров на чистом русском, пишет "Крисчиан Сайенс Монитор".

## ...Никто и не подумал, что красавица была слепая

Когда-то банальный и старомодный конкурс красоты "Мисс Италия" в этом году вызвал полемику в прессе, пишет британская "Таймс". Как оказалось, среди участниц конкурса, который пройдет 6 сентября, будут полностью слепая девушка, цыганка, занимавшаяся попрошайничеством, и две пары близняшек. Фаворитом журналистов стала 20-летняя Анназиза Минетти из Милана. Несмотря на слепоту, сеньорита Минетти участвовала в нескольких конкурсах красоты, причем никто и не подумал, что красавица была слепая. После победы в конкурсе "Мисс Ломбардия", давшей ей путевку на конкурс "Мисс Италия", сеньорита раскрыла свою тайну. Оказалось, что во время выступления приятель сеньориты Минетти Паоло передавал ей команды с помощью радиоприемника, спрятанного в ухе девушки. Как отмечает "Таймс", нынешний конкурс "Мисс Италия" станет не менее интересным, чем предыдущий, в котором победила 19-летняя Денни Мендес, родившаяся в Доминиканской Республике.

## Не те пошли солдаты. Чтобы укрепить их здоровье, нужно начинать с аэробики

Времена лающих сержантов и изнуряющих тестов на выносливость в британской армии закончились, пишет "Таймс". Испытывая тревогу из-за сокращения числа новобранцев и осознавая, что сегодняшний подросток находится далеко не в такой физической форме, как его ровесники из предыдущих поколений, командование британской армии приняло решение пересмотреть программу начальной подготовки солдат. По информации газеты, новая программа, которая будет оглашена 27 августа, значительно снижает требования к новобранцу и предусматривает более постепенное достижение им физической выносливости профессионального солдата. Новая программа даже не требует от новобранцев обязательных кроссов на выносливость и оставляет возможность начинать подготовку с аэробики. Кроме того, отныне требования к подготовке солдат будут зависеть от их должности: от военного клерка более не будет требоваться выносливость бойца с передовой. По оценкам авторов программы, с ее принятием количество новобранцев, прошедших начальную подготовку, возрастет на 16 процентов, пишет "Таймс".

**Подготовила Светлана РОСТОВА.**

Мюнхен — Мінск

Ніна МІХАЙЛАВА

# Мне такое і не снілася...

*Пра тое, што калі-небудзь пабываю за мяжой, я перастала і марыць. Але вось з Божай дапамогай трапіла ажно на месяц у горад Мюнхен. Для мяне ўсё там было незвычайным і цікавым, і таму запісвала, як кажуць, па прынцыпу: што бачу, тое і пішу.*

* * *

Прыехала ў Мюнхен 14 студзеня, якраз на стары Новы год. Крыху больш як два тыдні назад немцы святкавалі Нараджэнне Хрыстова, і таму я адразу заўважыла ў дварах упрыгожаныя гірляндамі лямпачак елачкі або любое дрэўца. На падаконніках ляжалі яловыя лапкі, прыгожыя вянкі са штучных кветак, стаялі свечкі, розныя дзіцячыя цацкі. Прычым усё гэта знадворку. Вянкамі з яловых лапак упрыгожаны брамкі ля невысокіх жылых дамоў. Карацей кажучы, усё тут нагадвала пра нядаўняе вялікае свята.

Мюнхен — сталіца Баварыі, тут жывуць вельмі веруючыя людзі. Нават замест звыклага "Guten Tag!" тут усюды — у магазіне, у пад'ездзе, у транспарце, дома — адзін аднаму кажуць "Grüs Gott!" (даслоўна: "Вітаю Богам!").

Мюнхенскі галоўны вакзал (Hauptbahnhof) вельмі вялікі. Гэта вялікая пабудова на зямлі і пад зямлёй. Пад зямлёй ажно тры паверхі. Калі пачаць знізу, то на самай глыбіні знаходзяцца лініі метро U-1 і U-2 (скарочана — ад Untergrundbahn, потым над гэтымі лініямі — U-4 і U-5, затым — "эсбаны" (электрычкі). Зноў на эскалатар — і аказваешся (як у нас) у цокальным памяшканні. Гэта сапраўдны горад пад зямлёй: сувенірныя, прадуктовыя, кніжныя лаўкі, розныя паслугі з маляўнічай рэкламай.

Яшчэ разок на эскалатар — і апынешся на Erdgeschoß (літаральна: "паверх на зямлі". Дарэчы, у немцаў першым паверхам лічыцца паверх над Erdgeschoß.

Што мяне адразу здзівіла, як трапіла ў вялізны будынак вакзала, дык гэта вялізны-вялізны, у форме авала прылавак, на якім ляжалі і песцілі вока самыя розныя прыгожыя цукеркі. Даўжыня прылаўка, як падалося, ля 50 метраў. Пакупнікі з двух бакоў ходзяць і самі сабе насыпаюць у кулькі прысмакі. (Дарэчы, на кожны від слодычы цана аднолькавая.) Ну, думаю, нічога сабе! Які давер пакупніку! А прадавец з электроннымі шалямі сядзіць у самым канцы прылаўка і не баіцца, што хто-небудзь не расплаціцца. Ды такога і не здарыцца! Настолькі тут высокая ўнутраная культура. І прыезджы чалавек гэта адчувае адразу.

Далей ідзеш і зноў не перастаеш здзіўляцца. Вось "камера захавання". Памяшканне ад залы чакання аддзелена лёгкай сеткай, гэта нават не дзверы. Падыходзіш бліжэй, сетка падымаецца аўтаматычна ўверх, перад табою з'яўляецца чалавек, які тут працуе. Чуеш ужо знаёмае: "Grüs Gott", на твары ветлівая ўсмешка. Плаціш колькі тут трэба, і спакойна можаш гуляць па горадзе, калі дазваляе час. Рэчы будуць у поўнай захаванасці. Тут няма ніякіх аб'яў тыпу: "За ценные вещи администрация ответственности не несет", "За вещи, не закрытые на замок, администрация ответственности не несет". Упершыню ў Мюнхене я падумала, што такія безадказныя аб'явы і даюць магчымасць не захаваць здадзеныя рэчы. Узнікае пытанне: для чаго ты тут працуеш, калі што-небудзь можа прапасці?

Дарэчы, у горадзе ўсюды стаяць машыны, днююць і начуюць ля тратуараў, у дварах; стаяць на спецыяльных стаянках веласіпеды ля пад'ездаў, ля магазінаў. І ніхто не падумае ўкрасці, ніхто не спрабуе зняць колы, шчоткі з лабавога шкла. З акна кватэры, дзе жыла, угледзела на даху машын снег, (відаць, даўно стаяць), дык і спытала ў гаспадара:

— Няўжо ніхто не спакусіцца зняць кола, залезці ў салон?

— Што вы! — пачула ў адказ, — нікому і ў галаву такое не стукне. Калі хто-небудзь зачэпіць чужое, то яму пагражае вельмі вялікі штраф, а то і турма. Не ты паставіў, паклаў, не ты і бярэш. Ганьба і ад людзей таксама.

Праўда, за ўвесь месяц я бачыла два веласіпеды са знятымі коламі. Мне растлумачылі, што хутчэй за ўсё такое маглі зрабіць рускія.

Жыла я ў трох прыпынках ад Галоўнага вакзала. Мой гаспадар — гасцінны і ветлівы чалавек, беларус з Клецка Дзмітрый Мікалаевіч Чайкоўскі — здымае двухспальную кватэру на другім паверсе (у немцаў гэта першы паверх). У кватэры дзве спальні па 18 кв. м, гасціная — 22 кв. м, вялікая прасторная прыхожая, ванны пакой разам з санвузлом (дарэчы, таксама прасторны) і невялікая прадаўгаватая кухня.

Гаспадар мне патлумачыў адразу, што спальныя пакоі не ацяпляюцца, таму снедаць, палуднаваць, вячэраць і бавіць час мы будзем у гасцінай. Справа ў тым, што толькі там стаяў вялікі сучасны абагравальнік, з дапамогай якога ў зале падтрымлівалася тэмпература +18⁰ С. Ну, падумала, адразу захварэю і будзе мне ўсё. Ажно не! Пад сапраўднай пуховай коўдрай і пледам спаць было здарова і цёпла.

Дзмітрый Мікалаевіч вельмі любіць зялёны колер, таму на падлозе пакрыццё зялёнае, канапа з двума крэсламі ў салатавых танах. Ля вялізнага акна стаяць пакаёвыя кветкі: пальма, бярозка. Дарэчы, апошняя вельмі ж нагадвае лісточкамі сапраўдную беларускую бярозку. Акно выходзіць на даволі ажыўленую вуліцу Tengstraße, і машыны снуюць туды-сюды, пры гэтым у пакоі амаль не чутно шуму. Выказваю гаспадару сваё здзіўленне, на што ён мне адказвае:

— Тут стаяць спецыяльныя шуманепранікальныя шыбы.

На сценах гэтага пакоя (дарэчы, як і ў спальнях) вісяць карціны, выкананыя таленавітымі рукамі Дзмітрыя Мікалаевіча. Спыняю свой позірк на партрэце Янкі Купалы — самым любімым і дарагім паэце для яго. Дзмітрый Мікалаевіч заўважае:

— Нарэшце адзін вельмі добры беларускі хлапец перадаў гэты партрэт для Літаратурнага музея Я.Купалы ў Мінску. Я гэтым ганаруся.

Я ўбачыла, як засвяціліся радасцю і ўдзячнасцю вочы майго гаспадара, чалавека ўжо, скажам так, немаладога веку (ён 1912 года нараджэння).

Адна сцяна ўвешана сувенірамі. Яны самыя розныя — беларускія драўляныя лыжкі, кухонныя дошкі ў нацыянальным стылі, ручнікі. На самым пачэсным месцы беларускі нацыянальна-гістарычны герб "Пагоня", бел-чырвона-белы сцяжок. Другая сцяна ў фатаграфіях, зробленых сынам Анатолем у час паездкі на радзіму ў Клецк, што на Міншчыне.

Падораныя мною кухонныя дошкі спадар Чайкоўскі прымацаваў над рабочым сталом на кухні, а беларускі ручнік, які я таксама яму прывезла, ён, пацалаваўшы, павесіў на абраз Казанскай Божай маці.

Агледзеўшыся трохі ў кватэры і даведаўшыся, што спадар жыве тут адзін, я пацікавілася, у колькі марак яна абыходзіцца яму ў месяц. Аказалася, што 1500. Праўда, ёсць ільготы, але яны нязначныя.

Як стала вядома пазней, мой спадар ладную суму ў год аддае за вучобу сваёй унучкі. Карацей кажучы, расходы не малыя, калі ўлічыць, што ёсць яшчэ машына, гараж; ладна грошай расходуецца на ежу. Тым не менш на ўсё хапае, каб жыць бязбедна. Праўда, я палічыла нетактоўным спытацца пра памер пенсіі. Але ўсё і так зразумела.

Давялося мне пагасцяваць яшчэ ў адной пенсіянеркі. Зараз яна здымае аднаспальную кватэру (двухпакаёвую па-нашаму) у цудоўным прыгарадным раёне. Уся жылая плошча прыкладна 35 кв. м. Адзін пакой на 15 кв. м, другі — на 10, астатнія метры прыпадаюць на кухню, прыхожую і ванны пакой. Раскошы вялікай не бачна, але ўсё з густам і прыгожа.

А якая чысціня ў пад'ездзе! Сходкі высланы пакрыццём для падлогі. Ды не проста высланы, зубамі выразана ля кожнай сходкі. Ідзеш на абцасах, і ніякага грукату. Ніхто чужы сюды без дай прычыны не зойдзе. А калі ідзеш у госці, то націскаеш кнопку з патрэбным прозвішчам, і, не выходзячы з кватэры, табе адчыняць дзверы.

Домікі ў прыгарадзе трохпавярховыя, амаль усе размаляваныя. На балконах, на стрэхах растуць вельмі прыгожыя вечназялёныя расліны. Ля пад'ездаў і вакол домікаў акуратна падстрыжаныя кусцікі. Яны служаць як бы агароджай для кветнікаў. Кажуць, што вясной, летам і восенню ад зеляніны і кветак вачэй не адвесці.

А як хораша глядзяцца вокны ў гэтых доміках і ўвогуле ва ўсёй Германіі! Прыгожысць ствараюць рознай формы, колеру фіранкі.

Наша гаспадыня аказалася вельмі гутарлівай. Безупынку панямецку гаварыла пра мужа (ужо амаль два гады, як ён памёр), пра чатырох сваіх дзяцей, якіх яна гадавала, можна сказаць, адна і таму ніколі не працавала. Найбольш яна распавядала пра мужа (ён беларус), што ён да фанатызму быў запалітызаваны, вельмі перажываў за сваю Бацькаўшчыну, а гэта адмоўна адбівалася на ягоным здароўі.

Пасля яе аповеду я доўга не магла заснуць, думала пра лёс гэтага чалавека, які, па словах гэтай жанчыны, не адыходзіў ад радыёпрыёмніка, ад "тэлевізіі" і ўсё думаў пра Беларусь. А ягонае вялікае сэрца беларускае не магло іначай, яно шчымела, балела за Беларусь, за беларускі народ. У гэтай сувязі прыйшлі на памяць словы Генадзя Бураўкіна:

*А я і ў радасці, і ў скрусе,*
*І калі сцішуся ў труне,*
*Сніць буду сны аб Беларусі,*
*Маёй радзімай старане.*

* * *

Двойчы за ўвесь час я пабывала ў Альпах. Мой гасцінны гаспадар прапанаваў з'ездзіць у баварскую вёску Обераммэргау (гук "г" — узрыўны). Але ўгледзеўшы, што ў мяне на галаве вялікая квяцістая хустка, ён дастаў з шафы шапку і сказаў:

— Гэта будзе па-нямецку, і якраз пасуе да вашага каўняра.

Мусіць, пабачыў, што мая паўлапасадская хустка вельмі вылучаецца на фоне еўрапейскіх жаночых галоў. Ну што ж, Еўропа ёсць Еўропа, падумала я, і з вялікай прыемнасцю надзела на галаву падарунак і так адправілася ў Альпы.

І вось тут мне хочацца расказаць больш падрабязна. Прыняўшы запрашэнне, я сказала Дзмітрыю Мікалаевічу, што паездка для нас вялікая раскоша, а для вас, канешне ж, да таго і будзе вельмі дорага каштаваць. На што пачула ў адказ, што гаспадар ужо больш як два тыдні нікуды не выязджаў на прыроду за горад (я падкрэсліваю — за горад, бо ён раз, а то і два на дзень катаецца на веласіпедзе ў Алімпійскім парку), а таму і сам з задавальненнем адпачне крыху ад гарадской мітусні, падыхае свежым паветрам.

Хачу сказаць пра ўзрост нашага праваднiка (ён жа і вадзіцель легкавой машыны). Спадару Дзмітрыю даўно за 80.

Да месца, куды мы накіроўваемся, 86 кіламетраў. Спачатку едзем праз горад. Міма маёй увагі не праходзіць тое, як паводзяць сябе на дарозе ў горадзе вадзіцелі — узаемная павага, дысцыпліна, усмешкі адзін аднаму. Машына ідзе плаўна, пастаў стакан вады — не разальецца.

Выязджаем на MittelRing (сярэдняе кальцо) і — на аўтабан. Толькі і паспяваю глядзець за спідометрам, які менш як 130 км у гадзіну не паказвае. А за рулём чалавек, якому далёка за 80!

Мільгаюць за акном роўныя квадраты снежных палёў з рознымі пабудовамі: можа, хлявы для сена ці яшчэ што. У далечыні ад дарогі — акуратныя домікі. Думаецца, што там жывуць фермеры, бо ў некалькіх месцах бачылі да дзесятка чыстых, прыгожых і адкормленых коней.

Але больш за ўсё паабапал дарогі лес, у асноўным яловы, траплялія і сосны. Трэба адзначыць, што нямецкія елкі крыху адрозніваюцца ад нашых беларускіх. Галіны ў нашых разлеглыя, снег на іх ляжыць шапкаю. А тут жа, асабліва ў Баварыі, як быццам глядзяць угору, а лапкі звісаюць так, нібы да асноўнага ствала прышыты з двух бакоў махры. Сёння гэтыя лапкі пакрыты інеем. Божа мой мілы! Да чаго ж гэта прыгожа!

Дарога паступова падымаецца ўгару, і ўдалечыні спачатку бачны невысокія Альпы. У 20—30 метрах ад дарогі віднеецца сетка накшталт нашай Рабіцы. Гэта для таго, каб лясныя жывёлы не выскоквалі на праезджую частку.

Аўтабан скончыўся, і мы звярнулі ўправа на горную дарогу, вельмі вузкую, здавалася, што скалы вось-вось заступяць дарогу, але не трэба баяцца. Дзе скалы вельмі навісаюць над дарогай, там яны абцягнуты засцерагальнай сеткай. У многіх месцах спецыяльна абсечаны, дзе-нідзе паўзрываны. Гэта для таго, каб засцерагчы дарогу ад апоўзняў.

Дарога тут вельмі вузкая, крутая, з рэзкімі паваротамі. На такіх участках вадзіцелі надзвычай узаемаветлівыя, строга трымаюцца свайго боку, не перавышаюць дазволенай хуткасці.

Нарэшце прыехалі да месца адпачынку. У гэтай вёсцы вельмі вузкія вулачкі, машыны размінаюцца з вялікай цяжкасцю. Домікі аднапавярховыя, размаляваныя. Тэмы малюнкаў самыя розныя — баварскія казкі, біблейскія сюжэты. Знадворку вокны ўпрыгожаны яловымі лапкамі, сухімі кветкамі, гарэць лямпачкі. На многіх доміках крыжы з распяццем Хрыста.

У цэнтры вёскі на Erdgeschoß (этаж на зямлі) знаходзяцца невялікія гандлёвыя лаўкі. Гэта яны тут лічацца невялікімі. А калі глядзець вачамі прыезджага чалавека, як я, то некаторыя лаўкі па плошчы ў два разы большыя, чым прадуктовы магазін, скажам, на вуліцы Карастаянавай у Мінску. А якая колькасць тавараў! Яны раскладзены і далёка за межамі лаўкі на вуліцы: падыходзь, выбірай, нясі ў лаўку і аплачвай. Ніхто не падумае ўзяць і не заплаціць. Вырабы па дрэву, з гліны, сурвэткі, посуд, адзенне, сувеніры, штучныя кветкі, свечкі! Ад усяго не адвесці вачэй. Мы трапілі якраз тады, калі ва ўсіх лаўках быў абедзенны перапынак. Гаспадары толькі прычынілі дзверы, а тавары астатнія так і ляжаць на вуліцы.

Ля адной лаўкі мы спыніліся. Дакладней, нас спыніў так званы зазывала. А выглядаў ён прыкладна так: на электрычную лямпачку накінута прыгожая вышываная сурвэтка; зверху — прымацавана фігурка з кардону ў выглядзе чалавечка з паднятай рукой. Калі набліжаешся да лаўкі, то спрацоўвае нейкі механізм, фігурка пачынае падскокваць і махаць рукою ў бок дзвярэй: маўляў, заходзь, выбірай, што душа пажадае. Прытым усё гэта суправаджаецца жаласнаватазапрашальнай мелодыяй, якая напомніла мне беларускую жалейку.

А прадаваліся тут баварскія сувеніры — паштоўкі, часопісы, розныя фігуркі, баварскія шляпы. Патрымала адну, з пяром, у руках. Вось, думаю, нябла́га было б прывезці свайму гаспадару ў Мінск, на баварца стане падобным. Але не! Цана ў 69 марак астудзіла маё памкненне.

Перад ад'ездам вырашылі зазірнуць у кафэ-рэстаран, выпіць гарбаты. Урачыстая цішыня. Зала амаль пустая. Занялі апошняе месца ў куце, каб зручней было ўсё агледзець. Побач з намі яшчэ чацвёра за такім жа столікам. Столікі пакрыты далікатнымі ружовымі абрусамі, на кожным свечка, а над сталом звісае прыгожая лямпа пад абажурам у тон абрусу.

Падыходзіць афіцыянт, з усмешкай гаворыць "Grüs Gott" і бярэ ў нас заказы: дзве гарбаты з лімонам, адну з манга і па порцыі куханаў. З такой жа ўсмешкай herr Ober прыносіць заказанае, запальвае свечку і жадае добрага апетыту. На ўсё кафэ абслугі ўсяго два чалавекі. Відаць, гэта брат і сястра, бо дужа ж яны падобныя.

(Заканчэнне на 4-й стар.)



Від на цэнтр горада. Сабор Фраўэнкірхе. Башня "Стары Пэтэр". Старая ратуша. Алімпійская башня.



Калона Марыі перад ратушай. На заднім плане — башні сабора Фраўэнкірхе.

## Самолет, который не нравится даже Биллу Клинтону

Похожий на гигантскую летучую мышь американский бомбардировщик Б-2, изготовляющийся с использованием технологии "Стелс", не только остается видимым в полете для радаров противника, но и очень чувствителен к температуре и влажности воздуха, пишет "Сан-Диего Юнион-Трибьюн". По этой причине Соединенные Штаты не могут их разместить, как планировалось, в Европе до постройки там специальных ангаров с контролем микроклимата. Постройка же ангаров еще больше увеличит стоимость бомбардировщика, уже достигающую двух миллиардов долларов. Согласно докладу, подготовленному Управлением общей бухгалтерской отчетности, антирадарное покрытие бомбардировщиков Б-2 настолько чувствительно к влажности воздуха и тяжелым климатическим условиям, что, по мнению экспертов, единственной возможностью успешной эксплуатации самолетов будет постройка специальных ангаров. Кроме того, избыточная влажность воздуха может вывести из строя ряд систем самолета, что потребует, по крайней мере, сутки для его полного осушения. Президент Билл Клинтон уже пригрозил законодателям, что наложит вето на любой закон, одобряющий дополнительные расходы на Б-2, пишет "Сан-Диего Юнион-Трибьюн".

## Власти Непала решили убрать трупы альпинистов с горы Эверест

"Санди Таймс" посвящает статью решению властей Непала убрать трупы альпинистов с горы Эверест. По мнению непальцев, тела погибших угрожают окружающей среде. Непальцы и ранее предпринимали попытки очистить Эверест от трупов. Установившаяся же в этом году очень мягкая погода позволит им подняться выше обычного и убрать большинство из 130 тел, до сих пор находящихся на склонах горы. Многие из трупов, лежащие прямо на пути подъема, даже играют роль мрачных знаков того, что альпинисты не сбились с пути. Один же из неудачников продолжает висеть на веревке недалеко от вершины горы. Хотя решение непальских властей, как отмечает газета, имеет под собой серьезные основания, родственники погибших альпинистов выступили против него. По их мнению, альпинисты должны остаться там, где встретили свою смерть, там, где мечтали быть. А пока некоторые менее почтительные горовосходители берут кости погибших на Эвересте в качестве страшных трофеев покорителя самой высокой вершины Земли, пишет в заключение "Санди Таймс".

*Российская Федерация*

## Ельцин образовал Государственную военную инспекцию, назначив ее руководителем Кокошина. Батурин покинул пост секретаря Совета обороны

Президент Борис Ельцин подписал Указ "О мерах по усилению государственного управления военным строительством в РФ". Согласно указу, президент освободил Юрия Батурина от обязанностей секретаря Совета обороны РФ.

Решением Б.Ельцина создана Государственная военная инспекция президента РФ. Документом установлено, что инспекцию возглавляет государственный военный инспектор РФ. Должность секретаря Совета обороны РФ упраздняется.

Этим же указом государственным военным инспектором РФ назначен 51-летний Андрей Кокошин, до этого занимавший должность первого заместителя министра обороны РФ и являвшийся членом Совета обороны. А.Кокошин освобожден от ранее занимаемой должности.

Как сообщили журналистам в Администрации президента, "Ю.Батурин остается помощником главы государства, и в ближайшие дни, возможно, Б.Ельцин определит сферу его деятельности".

48-летний Ю.Батурин занимал пост секретаря Совета обороны с того момента, как этот орган был основан указом президента РФ 25 июля 1996 года.



*Балтия*

## Президенты Латвии, Литвы и Эстонии, возможно, проведут в Вильнюсе встречи с премьером РФ

Президенты Латвии, Литвы и Эстонии Гунтис Улманис, Альгирдас Бразаускас и Леннарт Мери, возможно, встретятся в рамках международной конференции в Вильнюсе с премьер-министром России Виктором Черномырдиным.

В столице Литвы 5—6 сентября пройдет конференция глав государств и правительств 13 европейских стран на тему "Сосуществование народов и добрососедские отношения — залог европейской безопасности и стабильности". В.Черномырдин будет представлять на форуме Россию.

Как сообщила "Интерфаксу" пресс-секретарь президента Латвии Лига Крапане, Рига получила по дипломатическим каналам из Вильнюса информацию о том, что российский премьер выразил желание встретиться в Вильнюсе не только с президентом Литвы Альгирдасом Бразаускасом как с представителем принимающей страны, но и с президентами Латвии и Эстонии.

## Руководство Латвии рассматривает возможность увеличения оборонных расходов

Президент и премьер-министр Латвии Гунтис Улманис и Гунтарс Крастс обсудили возможность увеличения бюджетных ассигнований на нужды обороны, сообщили "Интерфаксу" в канцелярии латвийского президента.

Необходимость этого шага диктуется стремлением Латвии вступить в НАТО. Согласно критериям Североатлантического альянса, ассигнования на нужды обороны в государствах НАТО должны составлять не менее одного процента от общих бюджетных расходов.

В то же время государственный бюджет Латвии на 1997 год предусматривает ассигнования на оборону в размере лишь 0,6% от общих бюджетных расходов.

*Узбекистан*

## Ислам Каримов обещает, что образование в республике по-прежнему будет бесплатным

Выступая с докладом на сессии, президент Ислам Каримов назвал оставшуюся в наследство от "империи" систему народного образования "неэффективной", не отвечающей национальному самосознанию. К тому же, считает президент, "воспитанники советской системы образования не в состоянии воспринять идеалы независимости".

На претворение реформы образовательной системы власти Узбекистана намерены выделить уже на первом этапе 65 млрд. сумов ($1=72,45 сума). Первый этап начинается в этом учебном году и продлится до 2001 года.

Второй этап, на который намечено "полное осуществление национальной программы", пройдет в 2001—2005 годах. После 2005 года начинается третий этап, который И.Каримов назвал "этапом совершенствования образовательной системы".

Претворение национальной программы подготовки кадров, по обещанию президента, будет "гарантировать" государство, к ее осуществлению предполагается активно привлекать средства предприятий, фирм, академических учреждений.

Согласно программе, образование в Узбекистане по-прежнему будет бесплатным, подчеркнул президент. Но обязательными будут лишь 9 лет. Далее у молодежи выбор — или академический лицей, или профессиональный колледж. И то, и другое предполагает трехгодичное обучение. Далее учеба может быть продолжена по западному образцу: 4 года — на степень бакалавра и еще три года — магистратура. Решено оставить и часть "советской" системы: трехгодичную аспирантуру на степень кандидата наук и трехлетнюю докторантуру.

Дискуссии при разработке национальной программы возникли при обсуждении проблемы, с какого возраста идти детям в школу. И.Каримов считает, что 50% сельских детей в стране не смогут из-за недостатков в развитии учиться с 6 лет, поэтому решено сделать возраст плавающим — 6—7 лет.

Германия

# Эгон Кренц: шесть с половиной лет тюрьмы

## В Берлине вынесен приговор бывшим руководителям ГДР

Последний руководитель ГДР экс-генеральный секретарь ЦК СЕПГ 60-летний Эгон Кренц был приговорен в понедельник к тюремному заключению сроком на 6 лет и 6 месяцев. Вместе с другими подсудимыми он обвинялся в причастности к убийствам четырех восточных немцев в октябре — ноябре 1989 года при попытке перейти границу Восточной Германии.

В своем последнем слове Кренц подверг резкой критике "юстицию победителей". Он сказал, что не почувствовал у членов земельного суда Берлина искреннего желания "выяснить правду". "Никто из нас никого не убивал, — категорически настаивал Кренц. — В любом случае политбюро не имело возможности изменить что-либо на границе между восточной и западной частями страны. Все это находилось под юрисдикцией исключительно Советского Союза".

Среди обвиняемых на процессе были бывшие члены политбюро ЦК СЕПГ — главный редактор газеты "Нойес дойчланд" и первый секретарь берлинской организации партии Гюнтер Шабовский, а также экономист Гюнтер Клайбер. Они получили по три года условно.



Эгон Кренц.

В отличие от Кренца Клайбер назвал процесс "существенным и справедливым".

Берлинский "процесс политбюро" продолжался почти 1,5 года. Подсудимые в течение всего следствия настаивали на своей невиновности. Однако земельный суд Берлина принял решение, по которому все трое обвиняемых, "участвующих в принятии решений на политбюро, которое непосредственно руководило советом безопасности ГДР", были признаны виновными в случившемся на границе бывшей ГДР.

Признавая ошибочность былой политики, Шабовский заявил на суде, что современная Германия — "это единственный ответ истории на неудачную попытку" спасти обанкротившуюся социалистическую систему. "Мы просто пытались опустить утопию с небес на землю", — добавил он.

Как заявил берлинский адвокат Кристоф Шефген, комментируя приговор, "следует внести ясность в вопрос о том, что ответственность за все эти преступления несут не только ход истории, не только системы и аппараты, но и люди, и что даже пребывающим у власти лидерам не гарантирована правовая безнаказанность".

Вопрос о виновниках гибели по меньшей мере 450 человек, убитых с 1961 по 1989 год на границах ГДР и Восточного Берлина, давно волнует немцев. По этому поводу в одном только Берлине с 1992 года состоялось более 50 судебных процессов над пограничниками и политиками ГДР.

**Ангелина ТИМОФЕЕВА**

